ДЗІЦЯЧАЯ ГАЗЕТКА

# Несцерка



Будзь разам з намі!

№1(44)

4 студзеня 2003 года

Падпісны індэкс: 63672

# Віншуем з Зімовымі святамі!




*Віншую ўсіх удзельнікаў і пераможцаў конкурсу "Мой родны горад". Нагадаю, што ў конкурснай праграме ўдзельнічалі розныя працы на замежных мовах аб сваім родным горадзе. Здарылася так, што мае аднакласнікі Нікалаева Яна, Чарвякова Жэня і Давыдовіч Дзіма з СШ №4 горада Горкі Магілёўскай вобласці таксама сталі пераможцамі. Яны вельмі любяць свой горад, ганарацца ім. А яшчэ ім пашанцавала з настаўніцай англійскай мовы — Чыкізавай Валянцінай Паўлаўнай. Менавіта яна і стала іх галоўным натхніцелем. Жадаю ўсім здзяйснення мар і поспехаў ва ўсіх справах.*

**Каця Рабцава,**
**карэспандэнт газеты "Несцерка".**

# Увага!

## Усіх нашых чытачоў запрашаем прыняць удзел у новым конкурсе!

Умовы вельмі простыя:

1. Узгадайце смешныя гісторыі, якія адбываліся з вамі, вашымі сябрамі, аднакласнікамі, бацькамі або проста знаёмымі ці незнаёмымі. А можа гэта было нешта незвычайнае і неверагоднае?
2. Паглядзіце на тэмы, якія прапаноўваем мы: "І на ўроку бывае весела", "Мая вясёлая сямейка", "З маім сябрам не засумуеш", "Такога не можа быць!"
3. Не забараняем прыдумаць нешта сваё!
4. Вазьміце ручку, запішыце (можна суправаджаць малюнкамі) або, наогул, афарміце як коміксы і дашліце на адрас рэдакцыі. Толькі абавязкова пазначце свой поўны паштовы адрас, прозвішча і імя.

Не складана? Тады хутчэй за працу! Абяцаем, надрукавана будзе УСЁ!

Работы прымаюцца да 10 лютага 2003 года. Прызы ўжо чакаюць Вас!



**Давайце пасмяемся разам!**

# У гасцях у дзядулі



*Алесь і Ганупя гасцявалі ў дзядулі ў вёсцы. Як там было цудоўна! Цэлы дзень можна катацца на лыжах або санках з горкі ці коўзацца на каньках на ручаі, што цячэ побач з домам. Шкада толькі, што дзень так хутка заканчваецца, і трэба класціся спаць. Алеся і Ганулю нізашто б не зазваць дамоў, калі б не казкі, якія дзядуля расказвае нанач.*

*— Хто хоча слухаць казку? — крыкнуў дзядуля з ганку.*

*— Мы! — адказалі дзеці, убягаючы ў дом і ўтульна ўладкоўваючыся на дыван каля дзядулевага крэсла.*

*— Што ж вам сёння расказаць? — задумліва прамовіў дзядуля. — Хочаце паслухаць апавяданні жывёл?*

*Алесь і Ганупя любяць жывёл і радасна ківаюць.*

*— Так, так, дзядуля, хочам!*

*— Гэта было даўным-даўно, у далёкай, далёкай краіне, у адной вёсцы, — пачаў дзядуля. І вось якія гісторыі ён расказаў.*

## Апавяданне Мышкі

Звяркі толькі што павячэралі і адпачывалі ў хлеве, грэючыся ў промнях вячэрняга сонца, што пранікае ў адчыненыя дзверы. То тут, то там чуўся давольны ўздых. Трохі счакаўшы, з-пад страхі пачулася цвырканне маладога вераб'я-непаседы: "Ці не час прыступіць да апавяданняў?"

Стары Ослік, які ляжаў на саломе, сонна павярнуў галаву да вераб'я: "Ох, ужо гэта моладзь, вечна ёй не церпіцца! Але, мусіць, і праўда, пара пачынаць". Уладкаваўшыся ямчэй, Ослік паглядзеў на другіх жывёл, якія з нецярпеннем чакалі новых гісторый.

— Ну што ж, — прамовіў Ослік, — чыя сёння чарга?

Адразу паднялася ажыўленая гамана. Вераб'і цвыркалі нешта галубам, у вугле пішчэлі мышкі, а ягняты спрачаліся з трусамі аб тым, каму першаму расказваць.

— Ціха, ціха, — пачуўся голас Осліка. Гамана сціхла, і Ослік, павярнуўшыся да маленькай Мышкі сказаў: "Я думаю, час паслухаць тваю гісторыю, ці не праўда?"

Мышка ўсхвалявана заёрзала на месцы, радуючыся, што ўсе будуць слухаць яе расповед.

— Я раскажу вам самую хвалюючую гісторыю з усіх, якія адбываліся са мной, — пачала яна. — Я была тады зусім яшчэ маленькай і жыла разам са сваімі бацькамі, брацікамі і сястрычкамі ў хлеве, вельмі падобным на гэты. Аднойчы вечарам мы збіраліся адправіцца на вячэру. Раптам адчыніліся дзверы, і ўвайшлі мужчына і жанчына. Па тым, як стомлена яны апусціліся на салому, было бачна, што яны прыйшлі здалёку. Я не паспела іх разгледзець, бо мой тата сказаў, што час ісці вячэраць. Мы адправіліся, а калі вярнуліся праз некалькі гадзін, мяне чакала здзіўленне, якога яшчэ не было ў маім жыцці.

Мышка прыпыніла расповед і паглядзела на ўсіх. Апавядальнікі вельмі любілі гэтыя моманты чакання, калі ўсім не цярпелася пачуць, што ж будзе далей.

— Вы ніколі не здагадаецеся, што адбылося, дык я лепш сама раскажу вам, — працягвала Мышка. — У яслях для сена ляжала маленькае дзіця! — аб'явіла яна ўрачыста.

— Дзіця! — уздыхнуў у здзіўленні ўвесь хлеў.

— О, як цудоўна! — усміхнуліся галубы, буркуючы ад захаплення.

— І вы разгледзелі яго? — спытаў адзін з іх.

— Так, пазней вечарам, — адказала Мышка. — Наша маці загадала нам супакоіцца і ісці спаць. Яна сказала, каб мы не балбаталі, а то разбудзім дзіця. Але, — захіхікала Мышка, — я не заснула і вельмі рада гэтаму. Я падглядвала адным вокам, каб нічога не прапусціць.





Усе рассмяяліся. Звяркі добра ведалі адзін аднаго, і цікаўнасць Мышкі была ўсім знаёма.

— Не паспелі мае брацікі і сястрычкі заснуць, — працягвала лагодна Мышка, ніколечкі не крыўдуючы на іх смех, — як увайшлі некалькі пастухоў і нахіліліся перад нованароджаным, прыносячы Яму хвалу. Затым яны расказалі Яго бацькам, Марыі і Іосіфу, што ім на ўзгорак з'явіліся анёлы, узносячы славу Богу і абвяшчаючы, што ў Віфлееме нарадзіўся Выратавальнік міру, і што Дзіця ляжыць у яслях. Тады, сказалі пастухі, яны вырашылі пайсці ў Віфлеем, каб самім упэўніцца ў гэтым цудзе. Яны яшчэ доўга гаварылі і затым пайшлі, працягваючы славіць Бога.

— Якая дзіўная гісторыя! — прамовіў пан Сабака.

— О, гэта яшчэ не ўсё, — пасляшыла дабавіць Мышка. — Мой расповед, напэўна, будзе самым доўгім, таму што ён складаецца з дзвюх частак. Можа, пакінуць другую частку на заўтра?

— Не, не! — закрычалі ўсе. — Мы не можам чакаць да заўтра. Расказвайце, калі ласка, зараз.

Мышка была вельмі задаволена: яна ўбачыла, што ўсім вельмі спадабалася яе гісторыя, і працягвала:

— Я ўсё яшчэ думала пра пастухоў і іх цудоўным расповедзе, калі дзверы пуні зноў адчыніліся і ў іх увашлі... — Мышка зноў прыпынілася і глыбока задыхала, шырока раскрыўшы вочкі, пры адным успаміне аб здарэнні.

Жывёлы замерлі ў хваляванні. "Што ж здарылася?" — думаў кожны. Яны з нецярпеннем чакалі, пакуль Мышка справіцца з хваляваннем. Нарэшце, зрабіўшы глыбокі ўздых і супакоіўшыся, яна працягвала:

— Увайшлі тры мудрацы ў цудоўным адзенні і прынеслі падарункі Дзіця.

"Глядзі, мама, — закрычала я, — глядзі хутчэй!" "Цішэй, цішэй, — сказала маці. — Не гавары ні слова". Яна і сама амаль анямела, назіраючы за тым, што адбывалася. Я працягвала глядзець, бачыла, як мудрацы падносілі свае падарункі, і чула, як яны гаварылі, што прынеслі золата, ладан і смірну. Я прашаптала маці, што мне здаецца дзіўным дарыць такія падарункі дзіця.

— Але толькі не гэтаму дзіця! — раздаўся голас з цёмнага вугла пад страхой. Гэта быў голас мудрай Савы, якая ўрачыста прамовіла, ківаючы галавой:

— Гэтае дзіця было адметнае. Цар цароў і Гасподзь пануючых.

Усе кіўнулі, згаджаючыся з Савой, а Мышка сарамліва прамовіла:

— Я вельмі спужалася, калі зразумела, што побач — Месія, Сын Божы.

Яна змоўкла ў цішыні, якую ніхто не парушаў. Кожнаму звярку ў свой час даводзілася бачыць і чуць Ісуса, але бачыць Яго яшчэ Дзіцём — такой радасці не выпадала нікому.

Памаўчаўшы, Мышка працягвала:

— Мудрацы пайшлі, і я ўбачыла іх дары на падлозе побач з яслямі. Мне таксама захацелася нешта падарыць Ісусу, але што я магла даць Яму? У мяне нічога не было.

Мышка засмучана змоўкла, але затым зноў павесялела і сказала:

— Я вырашыла падарыць Ісусу адзінае, што ў мяне было — мой ложак, маю духмяную мяккую саломку. Я схапіла некалькі пучкоў і пабегла да ясляў. Я чула, маці клікала мяне, але, — засаромеўшыся, працягвала мышка, — не паслухалася і, узабраўшыся на яслі, паклала саломку да Дзіця.

Мордачка Мышкі свяцілася радасцю, калі, паглядзеўшы на звяркоў, яна сказала:

— Дзіця расплюшчыла вочы і ўсміхнулася мне. Яно ведала, што я дала Яму ўсё, што ў мяне было. Я прыціснулася да Яго толькі на секунду, каб паказаць, як я Яго люблю; і калі Яно паглядзела на мяне, я зразумела, што Яно таксама любіць мяне.

— Ах, Мышка, — прашаптаў Голуб, часта плюскаючы вачыма. Ён не мог працягваць ад хвалявання. Звяркі маглі зразумець яго: многія выціралі вочы лапкамі. Глыбока ўздыхнуўшы і справіўшыся з сабою, Мышка закончыла свой расповед:

— Я хутка пабегла назад да бацькоў, якія былі незадаволены маім знікненнем, але я ведала, і Ісус ведаў, што ў гэты момант адбылося нешта асаблівае.

— О, ты адметная Мышка! — прамовіў, нарэшце, Ослік. — Ты была на самым першым Ражстве і дала падарунак Самому Ісусу Хрысту.

— Але кожны можа прынесці Ісусу свой падарунак, — сказаў Голуб, крыху супакоіўшыся. — Мы можам аддаць Яму нашу любоў.

— Так, гэта — самы лепшы дар, — згадзіўся Ослік.

Мір і радасць самага першага Ражства, здавалася, напоўнілі ўсё вакол. Усе прыціхлі, атрымліваючы асалоду ад спакою пры думцы аб тым, што Ісус любіць іх, і яны таксама любяць Яго.



***Элізабет Эйнслі.***

***(Працяг будзе).***

# У Варшаву не за пакупкамі

*Шмат газет і часопісаў для дзяцей і дарослых выдаецца ў нашай краіне. Шмат журналістаў працуе ў іх. Але далёка не кожны з іх мае ўяўленне, як правільна размяшчаць артыкулы і фотаздымкі на старонках, якія ёсць сакрэты ў макетаванні. Ды яны гэта і не павінны ведаць. Галоўная задача журналіста — напісаць цікавы матэрыял. А каб газета ці часопіс выглядалі яшчэ і прыгожа, гэтым займаюцца камп'ютэрныя дызайнеры. Трэба сказаць, што існуе шмат спецыяльных праграм, якія ўвесь час удасканальваюцца. Таму прыходзіцца шмат вучыцца, каб потым было лягчэй і хутчэй працаваць. А калі ёсць чаму вучыцца, тады паўстае пытанне: "Дзе?"*

*Мне пашанцавала. Я перамагла ў конкурсе і таму два тыдні вывучала новыя камп'ютэрныя праграмы ў сталіцы Польшчы — Варшаве. Але пра вучобу я пісаць не буду. Лепш распавяду, як я праводзіла вольны час.*

Замкавая плошча.



## Спачатку аб сталіцы

Варшава — адна з самых маладых еўрапейскіх сталіц. А Стары горад (Старе място, Старувка) — адно з самых прыгожых месцаў у ёй. Чароўныя вулачкі, рамантычныя завулкі вабяць сюды не толькі турыстаў, але і жыхароў Варшавы. Тут пачыналася гісторыя горада.

Заўсёды шматлюдна на Замкавай плошчы. Па-першае, усе хочаць пабачыць Каралеўскі замак. Па-другое, на прыступках у падножжа калоны Сігізмунда любіць збірацца моладзь, таму час ад часу там нешта адбываецца. Я, напрыклад, бачыла своеасаблівы канцэрт брэйкераў і тусоўку рокераў. Цікавае відовішча! А яшчэ на Замкавай плошчы стаяць ізвозчыкі, і калі ёсць час і жаданне, то, калі ласка, зрабіце экскурсію па Стараму гораду ў карэце.

Рынак — месца, дзе на працягу стагоддзяў засяроджвалася жыццё горада. Вакол рыначнай плошчы будавалі свае дамы самыя багатыя гараджане Варшавы. Сёння на Рынку таксама шматлюдна: мастакі выстаўляюць на продаж свае карціны, побач прадаюцца сувеніры, летам кавярні і рэстараны ставяць пад рознакаляровымі парасонамі сталы, паўсюль чутна музыка. А мне пашчасціла тут паслухаць сапраўдную катрынку (шарманка).

Немагчыма не напісаць пра Барбакан, за якім пачынаецца Новы горад (Нове място). Ён быў пабудаваны ў 16 стагоддзі як умацаванне, абараняючае горад. А зараз тут можна



Рынак.

**Працяг на ст. 5.**

Пачатак на ст. 4.




У чаканні турыстаў.

паслухаць вулічных музыкаў, заказаць партрэт і нават даведацца пра свой лёс у гадалкі, купіць амулет ці якую-небудзь іншую магічную штучку. І ўсё гэта ўжываецца побач са шматлікімі касцёламі. У мяне склалася ўражанне, што яны амаль на кожным кроку. Можа, таму я не магла пазбавіцца ад адчування, што вось-вось з падваротні выйдзе жанчына ў сярэдневяковым каптуры або паглыблены ў разважанне ксёндз са старадаўнім малітоўнікам у руках...

На гэтым я скончу маленькае падарожжа па гістарычнаму цэнтру Варшавы, бо ўсё роўна немагчыма напісаць аб усім. Як кажуць, лепш адзін раз пабачыць... Толькі дадам, што калі вам давядзецца пабываць у гэтым горадзе, то абавязкова наведайце Лазенкі (дварцова-паркавы ансамбль) і зрабіце прагулку па Каралеўскаму тракту.

З цягам часу цэнтр Варшавы змясціўся. І гэта зразумела, бо горад ўвесь час пашыраецца: растуць высотныя дамы, сучасныя адміністрацыйныя будынкі, супермаркеты, гатэлі, ідзе рэканструкцыя помнікаў, будуецца метро. Асабліва ўражвае мноства машын. Можна падумаць, што ўсе варшавяне ўжо імі абзавяліся. Аўтамабілі паўсюль: на вуліцах, тратуарах, каля аўтобусных прыпынкаў, на завулках і нават на газонах. Але да пешаходаў вадзіцелі ставяцца вельмі паважліва, заўсёды прапускаюць. Прама ў цэнтры горада знаходзіцца чыгуначны вакзал. А як жа шматлікія цягнікі? Справа ў тым, што яны прыбываюць і адпраўляюцца з вакзала па падземных тунэлях. Гэта вельмі зручна. А яшчэ Варшава запомнілася сваёй шматкаляровасцю: будаўнікі смела расфарбоўваюць дамы, а розныя фірмы не шкадуюць сродкаў на сваю рэкламу. Мае новыя польскія знаёмыя сказалі так: “Мы паспелі да ўсяго гэтага прызвычаіцца. А ў каляровым наваколлі і жыццё становіцца прыгажэй”.



Нашчадак таты Карла.



Барбакан.

**(Працяг у наступным нумары).**

***Ірына Каралькова.***

# Свята Божага Нараджэння ў Польшчы!



Польшча сустракае Божае нараджэнне, як край хрысціянскі і верны Богу. Гэта найважнейшае свята, і праходзіць яно ў вельмі святочнай атмасферы, поўнай цеплыні і любові. Свята вельмі збліжае людзей, асабліва сваякоў. Перш за ўсё, прыгожымі каляровымі шарамі, гірляндамі, ліхтарыкамі сям'я ўпрыгожвае ялінку. Падчас гэтага спяваюцца калядкі, а з кухні цягнуцца пахі смачных страў. У святочны вечар, калі на небе загарыцца першая зорка, уся сям'я сядае за стол. Людзі дзеляцца аплаткай, жадаючы адно аднаму ўсяго найлепшага. На стале ляжыць белы абрус, а пад ім — сена. Вакол стала ўся сям'я, але трэба не забыцца пакінуць адно вольнае месца для нечаканага госця, чалавека, які заблукаў і патрабуе цяпла. Традыцыйна на святочным стале знаходзіцца 12 страў, і адной з найважнейшых ёсць рыба і чырвоны боршч з клёцкамі. Пасля сумеснай вячэры надыходзіць час успамінаў. Свята Божага Нараджэння звязана з падарункамі, таму ўсе нясмела паглядаюць у бок хваінкі, пад якой ляжаць прэзенты...

Свята — гэта час радасці, любові і прабачэння, таму было б добра, каб ніхто ў гэты дзень не быў у самоце. Каб кожны быў з блізкімі, якія яго любяць, і каб усе праблемы зніклі, бо што ж можа быць важнейшым за цеплыню роднага дома.

***Марта Овоцка, г. Варшава, спецыяльна для газеты "Несцерка".***

# РОК НА КАЛЯДЫ

21 снежня ў самым маладзёвым горадзе Беларусі Горках прайшоў музычны фэст "Рок на каляды".

Як вы ўжо здагадаліся з назвы фестывалю, на ім выконваліся творы ў стылі рок. На мерапрыемства ва ўсходні гарадок з'ехаліся гурты з Гродна ("Normal Limit" і "Deviation"), Мінска ("Paxic"), Жодзіна ("Murdered Faith" і "Дэкада"), Слуцка ("Усё і нічога"), Оршы ("Корд") і нават з Палескага Кажан-гарадка ("Цень"), што недалёка ад Лунінца. Моладзі набралася поўная зала, прыехалі госці з суседніх гарадоў і са сталіцы.

Гэты канцэрт быў задуманы яшчэ год назад сябрамі Задзіночання Беларускіх Студэнтаў і ўпершыню прайшоў у 2001 годзе. Асноўныя ідэі фестывалю: зрабіць традыцыю святкавання старажытных беларускіх калядаў больш сучаснай; зрабіць родную мову папулярнай (усе песні выконваюцца па-беларуску); дапамагчы пачынаючым гуртам.

Пра што ж спявалі маладзёны пад гукі цяжкіх рок-гітараў і магутных бубнаў? Пра свабоду, любоў да Радзімы-Беларусі, якая абавязкова стане самай прыгожай, самай багатай і самай добрай краінай свету. Таксама хлопцы ды дзяўчыны спявалі пра жыццё і каханне, без якога не можа быць шчаслівага жыцця. Не абмінулі музыкі і тэму Чарнобыля, які прайшоў вялікай бядою праз нашы гарады і вёскі.

Аднак гэта быў не проста канцэрт. Кожны гурт яшчэ і змагаўся за ўзнагароды ў розных намінацыях. Так, лепшы жаночы вакал па рашэнню журы аказаўся ў гродзенскай дзяўчыны Яны, а лепшы бас-гітарыст быў у аршанскім гурце "Корд". Дыплом за самы рокавы голас быў накіраваны ў Мінск. У Горках жа засталася галоўная ўзнагарода, выробленая з гліны, — калядная каза з гітарай, яе атрымаў гурт "Сцяг".

"Рок на каляды 2002" цягнуўся болей за тры гадзіны. Чаго толькі ні здарылася за такі прамежак часу! Гурт "Корд" віншаваў прысутных са святамі і дарыў калядныя паштоўкі на беларускай мове. "Deviation" налева і направа раздавалі аўтографы, бо ўжо дужа спадабаўся ўсім сваімі надзёнными тэкстамі і моцным голасам вакаліст. Усіх расчулілі рамантычнымі спевамі музыкі з "Paxic", якія выступалі апошнімі і выконвалі ўсё ў акустычнай форме. А яшчэ студэнты і школьнікі, якія прыйшлі на канцэрт, танчылі, скакалі і бясконца падпявалі. Як правільна зазначыў адзін з прысутных хлопцаў з Жодзіна: "Пасля такіх святаў разумееш, што па-беларуску размаўляць вельмі неабходна. Да ўсяго пачынаеш ставіцца па-іншаму." Можа, так яно не толькі для яго аднаго?



Напрыканцы хочацца сказаць, што працяг фестывалю будзе на наступныя каляды, таму калі вельмі хочаце, пад'язджайце ў Горкі, тут вам дакладна спадабаецца.

***Ілля Заранок, студэнт БДСГА.***

# ЧАЛАВЕЧАК З НІЧОГА



Жыў-быў чалавечак з нічога. Меў нос з нічога, рот з нічога, апранаўся ў нішто і насіў шкарпэткі з нічога. Пайшоў па дарозе з нічога, якая нікуды не вяла. Сустрэў мыш з нічога і спытаў яе:

— Ты не баішся ката?

— Не, не баюся, — адказвае мыш з нічога. У гэтай краіне Нічога жывуць толькі каты з нічога, у якіх вусы з нічога і кіпцюры з нічога. Аднак, я люблю сыр. Ем толькі дзіркі. Яны з нічога, але такія смачныя.

— У мяне кружыцца галава, — кажа чалавечак з нічога.

— Твая галава з нічога. Нават калі ты ўдарышся ёю аб сцяну, табе не будзе балюча.

Чалавечак з нічога захацеў паспрабаваць. Пачаў шукаць сцяну, каб ударыцца галавой. Але сцяна была з нічога, і ён з разбегу заляцеў на той бок. Там таксама не было нічога.

Чалавечак з нічога настолькі стаміўся ад усяго гэтага нічога, што заснуў. Ён сніў, што быў чалавечкам з нічога і пайшоў па дарозе ў нікуды, сустрэў мыш з нічога, еў з ёю дзіркі ў сыры, мыш з нічога мела рацыю: гэтыя дзіркі не мелі ніякага прысмаку.

# ВУЧЭБНАЯ КАРАМЕЛЬКА

На планеце Біг няма кніг. Навука прадаецца і спажываецца ў бутэльках.

Гісторыя — гэта чырвоная вадкасць, падобная на газіроўку, геаграфія — ментолавая зялёная вадкасць, граматыка колерам і смакам нагадвае мінеральную ваду. Школ няма, усе вучацца дома. Штораніцы дзеці адпаведна ўзросту павінны выпіць адну шклянку гісторыі, некалькі лыжачак арыфметыкі і гэтак далей.

Вы не верыце? А яны ўсё роўна капрызнічаюць.

— Ну, будзь малайцом, — кажа мама. — Заалогія — такая смачная. Салодкая, саладзюсенькая. Спытай у Караліны (гэта электронны робат-прыслуга).

Караліна дазваляе naліць сабе за кампанію першай. Памацаўшы пальцам у шклянцы, яна выпівае вадкасць і прычмоквае:

— Уф, праўда смачная, і адразу пачынае паўтараць урок заалогіі: “Карова — гэта чатырохногая жывёліна, якая жуе жуйку і жывіцца травой ды дае малако з шакаладам”.

— Ну, бачыш? — пытаецца ўзрадаваная мама.

Маленькі вучань ківае галавой. Яму яшчэ здаецца, што трэба піць не заалогію, а рыбін тлушч. Потым рашаецца, заплюшчвае вочы і праглынае адным махам увесь урок. Усе б'юць у ладкі.

Само сабой зразумела, што ёсць старанныя і руплівыя вучні, ёсць нават ласункі. Яны падымаюцца ўначы, каб употайкі выпіць газіраванай гісторыі, і п'юць яе да апошняй кроплі. Такія становяцца проста мудрацамі.

Для дзяцей ясельнага ўзросту ёсць вучэбныя карамелькі з прысмакам трускавак, ананаса, сочыва. Яны змяшчаюць просценькія вершы, назвы імёнаў тыдня, лічбы да дзесяці. Мой сябра — касманаўт — даў мне на памяць адну такую карамельку. Я аддаў цукерку маёй дачцэ, і яна адразу пачала чытаць нейкую смешную лухту на мове планеты Біг. Нешта накшталт:

— Анта анта пэра пэра
пэнта пінта пім пэро...

А я нічога не зразумеў.

***Джані Радары.***

***Пераклаў з італьянскай мовы Валеры Буйвал, г. Гомель, спецыяльна для “Несцеркі”.***



# Анкета "Несцеркі"



Прывітанне, нашы чытачы, дарослыя, юныя і зусім маленькія!

Калі ласка, знайдзіце час, жаданне і невялікія грошы, каб запоўніць і адправіць да нас гэтую анкету. Нам дужа хочацца рабіць нашу газетку разнастайнай і цікавай для Вас. А для гэтага мы павінны ведаць, які Вы, наш чытач, чым Вы захапляецеся і што Вас цікавіць. Анкета ананімная, таму спадзяемся на вашую шчырасць. Да некаторых пытанняў просім аднесціся з гумарам.

Чакаем вашых лістоў!

**Малодшы састаў рэдакцыі, а дакладней, сталыя юныя карэспандэнты "Несцеркі"**

*1. Хто ты? Хлопчык ці дзяўчынка?* ________________

*2. Твой узрост і клас навучання?* ________________

*3. Як ты вучышся ў школе (па адзнаках настаўнікаў)?*



а) выдатна ________

б) добра ________

в) так сабе ________

г) з пераменным поспехам ________

***4. А як сам ацэньваеш свой інтэлект?***

а) высока ________

б) сярэдне ________

в) так сабе ________

***5. Ці згодзен са сваімі адзнакамі? Калі не, то чаму?*** ________________

***6. Што табе перашкаджае (дапамагае) вучыцца добра?*** ________________

***7. Чым ты ганарышся (незадаволены) ў сваёй школе?*** ________________

***8. А ў класе?*** ________________

***9. Можа трэба што-небудзь меняць у школе, класе? Калі так, тады што менавіта?*** ________________

***10. Якая карысць (ці наадварот) для цябе ад дзесяцібальнай сістэмы?*** ________________

***11. Чым ты займаешся ў вольны час? Твае захапленні?*** ________________

***12. Ці любіш ты слухаць музыку? Якую?*** ________________

***13. А якія кнігі ты чытаеш? (любімыя жанры)*** ________________

***14. Тваё стаўленне да спорту?***

а) пасіўнае ________

б) актыўнае (тады, чым займаешся?) ________________

***15. Мае любімыя:***

а) тэлеканалы ... ________________

б) тэлеперадачы ... ________________

***16. Газеты або часопісы, якія ты чытаеш? (пералічы)*** ________________

***17. З дапамогай "Несцеркі" хачу даведацца аб ...*** ________________

***18. Я мару стаць ...*** ________________

***19. Вашыя прапановы для нас ...*** ________________

***20. Рассмяшыце рэдакцыю (самыя вясёлыя і без "барады" смяшынкі ці анекдоты будуць надрукаваныя)***

## Усё. Дзякуй!

Заснавальнік і рэдактар — Ірына Каралькова.
Выканаўчы рэдактар — Ірына Кальчэўская.
Кампутарны дызайн — Алесь Іскроў.
Карэктар — Алена Белкіна.

Газета зарэгістравана ў Дзяржкамітэце РБ па друку 14.09.2000 г. **Пасведчанне №1528.**

Газета надрукавана ў абласной друкарні імя Спірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70.
Замова 19. Наклад 1300 асобнікаў. Падпісана да друку 03. 01. 2003г. а 17.00.

***Адрас рэдакцыі:***
213410, Магілёўская вобл.,
г. Горкі, вул. Цыялкоўскага, 23
**Тэл. 8-(02233)-5-09-59**
E-mail: nescerka@hotbox.ru